16+

ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

9 • 2018
верасень

Алег ГУЦОЛ.

**Асцярожна Прахіндзеі!**







Мікола ГІРГЕЛЬ х 2.

# Дзелавыя людзі

*Гумарэска*



Механізатар Іван Муравушкін заўважыў, што час ужо касіць пасеяныя травы. Падышоў да брыгадзіра Беразняцкага:

– Васіль Пятровіч! Сенажаць па пояс, здаецца мне, што трэба брацца за працу.

– Добра, скажу пра гэта аграному.

Малады аграном Пятрусь Захарчыкаў адразу ж паімчаў да дырэктара сельгаспрадпрыемства.

– Міхаіл Максімавіч! Па-мойму, трэба пачынаць сенакос у першай брыгадзе.

– Пачакай, даражэнькі, параюся з райсельгасхарчам, – крыху астудзіў яго запал дырэктар і пазваніў у раён.

Начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання на месцы не было, а яго намеснік паабяцаў даць адказ заўтра, бо Парфен Парфенавіч у камандзіроўцы.

Калі ж начальнік вярнуўся, адразу пачуў прапанову:

– Лічу, што пара пачынаць сенакос у першай брыгадзе сельгаспрадпрыемства «Перадавік»!

– Пачынайце! – згадзіўся Парфен Парфенавіч, а сам падумаў: «Глядзі ты, які ініцыятыўны, а казалі, што мой намеснік нічога не разумее ў нашай справе... А ён жа і прапанову добрую ўнёс, і ведае нават дакладны адрас, дзе трэба пачынаць...»

– Малайчына, Міхаіл Максімавіч! – неўзабаве намеснік начальніка ўпраўлення пахваліў дырэктара сельгаспрадпрыемства. – Вашу прапанову адобрылі. Можаце пачынаць.

«Малады, а башкавіты!» – думаў дырэктар, калі аддаваў распараджэнне аграному Петрусю Захарчыку пачынаць касьбу.

– Прымайся за працу! – з зайздрасцю сказаў агроном брыгадзіру, бо яго падначалены такі дзелавы, сапраўдны гаспадар.

Брыгадзір жа выклікаў да сябе Івана Муравушкіна:

– Так, паступіла ўказанне з раёна – пачынаць касьбу. Хуценька чапляй касілку і адпраўляйся на поле!

**Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*




Алег КАРПОВІЧ.



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.



Аляксандр ШМІДТ.

**Віктар РЭЧЫЦ**

## Фота ад Янота

*Байка*

Сфатаграфаваў Ваўка Янот
І змясціў на стэндзе ў лесе фота.
Воўк убачыў, буркнуў:
– Ідыёт!
Пазавіце да мяне Янота!
Той з'явіўся.
– Ведаеш, хто я? –
Воўк спытаў. –
Я Зубра замяшчаю.
Праца ж недастойная твая
Мяне вельмі, вельмі засмучае.
Здымак гэты – як удар пад дых!
Апраўдацца наш Янот спрабуе:
– Я даўно фатаграфую ўсіх,
Практыку тут маю неслабую...
– Паглядзіш, з пасады як здыму,
Будзеш мець за брак узнагароду.
Фота невыразнае... Чаму
Бачна толькі палавіна морды?
– Слухайце, – Янот пачырванеў, –
Трэба акуратна разабрацца.
Каб я вашу морду ўзяў паўней,
У той кадр бы трапіў карак Зайца,
Бо з Касым на сцэне вы былі,
Сталі насупроць адзін другога...
Шэры запярэчыў:
– Не хвалі
Сваю працу ты, лайдак, замнога.
А маршчына каля губ? Адкуль
Ёй там паявіцца закарцела?
Ладна, майстар, ты працуй пакуль,
Ды глядзі, каб справа не цярпела.
Толькі будзе правіла адно,
І выконвай кожны раз яго ты:
Як мяне сфатаграфуеш зноў,
Узгадняй са мною тое фота.
Меў Янот намер сказаць Ваўку:
«Як сябе на фота вы пазналі,
То за што мяне біць па баку?»
Ды Ваўка на вуліцу пазвалі.





***

Перш, чым фотамайстра вінаваціць,
Пільна паглядзі ў люстэрка, браце.

# Бізнес-праекты












Юрый МІХАЙЛАЎ х 4.

## Спец па халадзільніках

*Быль*

Ігната ў вёсцы і навакольных паселішчах лічылі вельмі важным і патрэбным чалавекам. Ён быў спецыялістам па халадзільніках. Але не па «Атлантах» ці «Індэзітах», што прадаюцца ў крамах, а па іншых. Ён ведаў усё пра халадзільнікі для самагонных апаратаў. Уменне гэтае было рэдкае. Каб зрабіць змеявік, трэба было пахадзіць і пашукаць адпаведнага дыяметру пень, а потым акуратна і роўна абкруціць вакол яго трубу.

Аднойчы з Ігнатам адбыўся цікавы выпадак. Паехаў ён з напарнікам на ферму, што знаходзілася каля лесу. Свіней, каб тыя не перашкаджалі працаваць, выгналі з хлявоў у загарадку.

Мужчыны папрацавалі да абеду, і тут спецыяліст па халадзільніках успомніў пра новы заказ. У перапынак накіраваўся ў лес шукаць патрэбны пень. Непадалёку ад загарадкі са свіннямі мужчына прыкмеціў вялікі корч з камлём, які добра падыходзіў па памерах.

Вярнуўшыся на ферму, Ігнат з напарнікам прадоўжылі займацца рамонтнымі работамі.

Усё было ціха і мірна. Але ў хуткім часе да іх прыбегла запыханая і ўсхваляваная загадчыца фермы.

– Вой, што нарабілася! Памажыце свіней палавіць. Паламалі загарадку і разбегліся хто куды!

Да вечара рамонтнікі разам са свінаркамі шукалі па лесе жывёлін. Большасць свіней была перапужаная, з пракусамі на скуры. Але ніхто не мог зразумець, хто ж гэтак моцна напужаў жывёлін, што яны паламалі плот і рынуліся наўцёкі. Адныя казалі пра ваўкоў, іншыя – пра рысь. Але прычына так і заставалася невядомай. І ніколі б, напэўна, не дазналіся праўды, але Ігнат, калі ўжо прамінуў пэўны час пасля здарэння, неяк прызнаўся свайму напарніку:

– Гэта ж я тады свіней разагнаў.

– Як так здарылася? – здзівіўся той.

– Выбраў пень, вакол якога можна было абкруціць трубу, абышоў знаходку, агледзеў. Бачу – дзірка ў ім каля самай зямлі. Думаў, нара змяіная. Стукнуў па пні разок і пачуў, як нешта загудзела. Даў другі раз – ужо мацней. Пень і рассыпаўся, бо трухлявы быў. А з яго вылецеў рой восаў! Ну, я і пабег адтуль, толькі пяты блішчэлі. А тыя восы накінуліся на свіней. Віск, енк усчаўся. А я ціхенька на ферму пашыбаваў. Працаваў, маўчаў. Добра, што ўсё мірна скончылася. Маглі і мяне загрызці. А я ж спец па халадзільніках, а не па восах...

**Ігар ПРАКАПОВІЧ,**
*г. Паставы.*

# СПРАВЫ СЯМЕЙНЫЯ

*Мініяцюры*

### Паразумнеў

Калі жаніўся малады,
Меў мала розуму тады.
Ды розум большаў з году ў год,
І вось — хапіла на развод.

### На прыёме ў доктара

— Штосьці з жонкай мы не ладзім,
Як канфлікты нам загладзіць?
— Раю паляцець на мора,
Дэпрэсіўную зняць хворасць.
— Не паможа, доктар, гэта:
Добра плавае кабета.

### Цёплае месца

— Любы, ты ж мяне кахаеш.
Мо жаніцца час прыйшоў?
— Я ж без працы, дарагая,
Я жыву за кошт бацькоў.
Ад таго мне вельмі сумна,
Што сяджу на шыі ў іх.
— А ты трошачкі пасунься —
Весялей будзе ўдваіх.

### Сакрэт

— А чаму твая Наталка
Цябе, дружа, круглы год
Адпускае на рыбалку
Без скандалаў і згрызот?
— Паспрабуй на сваёй Клаве
Мой сакрэт праверыць ты:
Карасю я раз паклаў быў
Ў рот пярсцёнак залаты.

### Час прыйшоў

— Як здароўе, як настрой?
— Шчасце, цішыня, спакой.
Так жыву — лепш не прысніцца!
— Што ж... пара табе жаніцца.

### Хто галоўны?

Запытала ў Іры Даша:
— Хто ў сям'і галоўны вашай?
— Муж! Хачу табе прызнацца:
Ён — галоўны выканаўца.

**Мікола КАМАРОЎСКІ,**
*г. Орша.*




Анастасія СКАРКО і Міхась СТЭФАНЕНКА.

## Каб і хацеў — не прыдумаеш!

Грамадзяне! Эканомце ваду — піце піва!

*(З аб'явы.)*



* * *

Пытанне:

— Ці часта ў вас былі стрэсы? Па якой прычыне?

Адказ:

— Часта. Бо ўжо больш за дваццаць гадоў жанаты.

*(З анкеты.)*

* * *

Калі ўсё добра, то гэта такса-ма дрэнна.

(З выступлення.)

* * *

У гэтым годзе камбайнёры Сяргей і Іван Максімавы ходзяць па краі дажджу.

*(З артыкула ў газеце.)*

**Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*

**Нічыпар ШЭРАНЬКІ**

## Дапамог

Да суседкі, да Агаты,
Зачасціў хлапец цыбаты.
То паправіць частакол,
То паставіць харч на стол,
То падладзіць рыпкі ганак,
То пілуе дровы ранак,
То абрэжа сад сукаты...
Не адходзіцца ад хаты.
...Зацяжарала Агата –
«Дапамога» вінавата!



## Дружбакі

Ціт і Костусь – дружбакі,
Іх вадою не разліць.
Зноў над хвалямі ракі
Сеткі ставяць – плёс шуміць!
Узялі ў жыцці разгон,
Не супыніш – ух які!
Разам ціснуць самагон
У адрыне – дружбакі!

Ім зайздросціць вёска ўся:
Ну, сапраўдныя сябры!
Завалілі ўдвух лася
Ля балота ў гушчары.

Паасобку – кожны зух.
Ды куды яно ямчэй
Быць заўжды ва ўсім удвух –
Болей рук і менш вачэй!

## Жаночая скарга

У кагось муж – божы дар,
Ну а мой:
Толькі вечар – у піўбар
Па прамой.

Кухаль пенны паднясе
Да зубоў –
І пагаслі думкі ўсе
Пра любоў.

А калісьці хлопец быў
Проста зух.
За жыццё адно й нажыў –
Піўтрыбух!



# Не захапленне, а раздражненне

*Іранеска*

Мікалай Пятровіч Трусаў – чалавек сталага ўзросту, які вельмі часта пачаў наведвацца ў бытавую краму «Прыгажуня». Тут працуюць маладыя ветлівыя жанчыны. Яны кожны раз дапамагалі ветэрану выбраць патрэбныя тавары. Мікалай Пятровіч па сваім узросце мог бы прыходзіцца прадаўшчыцам бацькам або дзедам. Але з маладзіцамі так прыемна пагаварыць, паведаць ім цікавыя гісторыі са свайго жыцця.

Калі ў краму прыходзілі пакупнікі, Мікалай Пятровіч звычайна пакідаў памяшканне, каб не перашкаджаць дзяўчатам сумленна выконваць свае службовыя абавязкі. Пастаяннага наведвальніка паважалі, але з цягам часу ён адчуў няёмкасць: сюды чамусьці прыходзілі толькі жанчыны.

Мужчын Трусаў ні разу не сустракаў. Таму ён звярнуўся да маладой красуні з пытаннем:

– Скажыце, калі ласка, Галя, чаму мужчыны абыходзяць ваш магазін. Адзін я тут таўкуся.

– Вы памыляецеся, – заўважыла прадаўшчыца. – Іх да нас цягне як магнітам.

– Чаму ж сёння іх няма?

– Мы дазваляем нашым прыхільнікам з'яўляцца тут толькі пасля работы...

– А хіба вы ўсе не замужам? – здзівіўся Трусаў.

– Дзівак вы, Мікалай Пятровіч, – усклікнула Галя. – Мы або маем другую палову, або паспелі ўжо разысціся.

– А як рэагуюць на вашы свавольствы мужы?

– Па-першае, яны таксама працуюць, а па-другое, калі мы прыходзім дадому, яны ўжо спяць.

– Але як вы можаце заводзіць палюбоўнікаў пры жывых мужах?! – абурыўся пенсіянер.

– Вы зноў не так усё зразумелі, – усміхнулася Галіна. – Мы з імі толькі фліртуем, весела праводзім час і атрымліваем падарункі. Мужчыны, як вядома, любяць вачыма, то і няхай любуюцца нашымі стройнымі нагамі. Памятаеце радкі, якія напісаў Пушкін? «Як мільгаюць ножкі мілых дам, а па іх слядах мужчын чароўныя пагляды...» Так што і вы, шаноўны Мікалай Пятровіч, можаце бясплатна любавацца прывабнымі ножкамі, пакуль няма нашых...

Трусаў, не даслухаўшы гэтую балбатню, выйшаў з крамы і больш там не паяўляецца. З той пары стройныя ножкі выклікаюць у яго не захапленне, а раздражненне...

**Аляксандр ЖУКОЎСКІ,**
*г. Клецк.*




Алег ГУЦОЛ.

## Філалагічныя замалёўкі

Гэты астранаўт з ліку нешматлікіх першых людзей.

Незвычайная аўра панавала ў духоўнай скарбонцы мастака.

Міхаіл імкнуўся прытуліцца да зямлі ўсёй страсцю сваёй свядомасці.

Набыць у асобе імгненных партнёраў сапраўдных аднадумцаў.

Ён скончыў музычную кансерваторыю.

Абсталяваны асобныя калідоры для ўдзельнікаў і балельшчыкаў чэмпіянату свету, якія абазначаны спецыяльнымі лагатыпамі.

**Уважліва чытаў перыёдыку**
**Дзмітрый ПЯТРОВІЧ.**




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Міхась СТЭФАНЕНКА.

# Фантазія

*З натуры*



У савецкім кінафільме «Крок насустрач» гераіня Людмілы Гурчанкі ў гневе бяжыць у суседні пад'езд сварыцца з мужчынам, які надакучыў ёй бясконцым стукам за сценкай. Адчыняюцца дзверы, і высвятляецца, што ўвесь гэты час ён чаканіў яе партрэт, бо тайна быў закаханы.

Вось і я ўяўляю, як падымаюся на паверх вышэй, званю ў кватэру суседа. Ён сарамліва апускае вочы і праводзіць у пакой. А там прама на дошках падлогі высечаны мой барэльеф у поўны рост. На ім я сяджу на троне ў прыгожай пышнай сукенцы. Мяне ахоўваюць дзесяць волатаў-стражнікаў у даспехах. У зале за накрытым сталом з рознай ежай размясцілася сотня маіх падданых. Пры гэтым за маёй спінай за ўсім гэтым назірае велізарны цмок з трыма галовамі.

Інакш я не разумею, што можна дзяўбці сякерай на падлозе два тыдні запар – раніцай, днём і вечарам! Цюк-цюк, цюк-цюк. Лепш бы перфаратарам сцены свідраваў, як усе астатнія!

**Алена ВАЯГА,**
*г. Мінск.*

Алег ПАПОЎ х 4.




















Аляксандр КАРШАКЕВІЧ x 3.

# КАНТРОЛЬ І БОЛЬ

Жаніху пасля вяселля
Жонка кажа так нядзеляй:
– А ні-ні хмяльнога зелля,
Не губі мазгі пахмеллем.
Не вадзі сяброў дахаты,
Мы на грошы не багаты.
Пад штодзённым муж кантролем
Адцураўся алкаголю.
Ды жанчына зноў пілуе
(Сілу мае немалую):
– Заўважаю: на суседку
Паглядаеш ты нярэдка.
Кінь ёй галаву дурыць,
Бо не дам спакойна жыць!
Часта ранкам мармытала:
– Уставай, бо будзеш вялым.
Шкодна спаць так доўга. Годзе –
Пакапайся ў агародзе!
А сама панесла плёткі
Да суседавай малодкі.
Гаспадар яшчэ прыкмеціў:
Не патрэбны жонцы дзеці.
Мужа лепш кантраляваць,
Чым маленькіх гадаваць!
Часам гэтакі кантроль
Не карысць нясе, а боль...

**Лявон АНЦІПЕНКА,**
*г. Шклоў.*




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.

# Інавацыйны падыход

*Іранеска*

Іван Іванавіч Дубоўскі, кіраўнік завода, быў зусім не ў гуморы. Сёння на калегіі ён упершыню пачуў страшнае і незразумелае для яго слова «інавацыя», і цяпер яно не давала яму жыцця.

Не паспеў Іван Іванавіч зайсці ў свой кабінет, як усе месцы абапал яго доўгага дырэктарскага стала занялі намеснікі.

– Я толькі што вярнуўся з калегіі, – Дубоўскі высока ўзняў палец угору. – Там незадаволены працай нашага прадпрыемства і патрабуюць інавацыйнага падыходу да справы.

– А з чым яе ядуць, гэтую інавацыю? – пацікавіўся першы намеснік дырэктара.

– Чакайце, зараз растлумачу, што гэта такое, – Іван Іванавіч дастаў з кішэні ў некалькі разоў складзены аркуш паперы, які яму далі для азнаямлення ў главку, разгарнуў і пачаў выразна чытаць: – Інавацыя – гэта новаўвядзенне, якое забяспечвае якасны рост эфектыўнасці вытворчасці.

– Дык гэта не пра нас, – адразу адмахнулася галоўны бухгалтар, па сумяшчальніцтве жонка дырэктара. – Толькі дарма сабраліся, можна разыходзіцца...

– Раней жа неяк жылі без гэтай інавацыі і далей без яе абыдземся! – заўважыў другі намеснік.

– Пакінуць усё, як ёсць, не атрымаецца! – цяжка ўздыхнуў Дубоўскі. – Іншы час надышоў. Такая праца ўжо нікога не задавальняе. Глядзіце, як бы чаго горшага не выйшла!

У кабінеце дырэктара ўсталявалася панурая цішыня. Каб неяк разрадзіць абстаноўку, Іван Іванавіч запытаўся:

– Вось што мы ў асноўным вырабляем?

– Тармазны башмак для аўтамабіляў, – падказаў першы намеснік. – Толькі збыту няма.

– У тым і справа! – заўважыў дырэктар. – Мы тэхнічна адсталі, і наша прадукцыя не запатрабавана.

– Дык гэта зразумела, – спакойна адказаў галоўны інжынер. – Сучасныя машыны абсталяваны якаснай сістэмай тармажэння, і башмакі ім больш не патрэбны.

– А навошта тады мы іх выпускаем? – спытаў Дубоўскі. – Толькі метал пераводзім ды склады загружаем.

– А нічога іншага рабіць мы не ўмеем, – хорам пачалі апраўдвацца намеснікі.

– Таму і патрэбна інавацыя, – зрабіў выснову дырэктар. – І тут з вышэйшым кіраўніцтвам я цалкам згодны.

Іван Іванавіч хвіліну памаўчаў, а потым паўтарыў словы і інтанацыю, што пачуў ад высокага начальства:




Пётр КОЗІЧ.

– Неабходна перайначыць вытворчасць, каб яна адпавядала сучаснасці.

– А можа, не будзем спяшацца з гэтай самай інавацыяй? Слова якое непрыемнае... – з лісліваснцю ў голасе прапанавала галоўны бухгалтар. – Лепш возьмем на працу добрага спецыяліста па збыце.

– Гэта мы ўжо праходзілі, – заўважыў галоўны інжынер. – Узялі начальнікам аддзела збыту вашага сына. Дык ён столькі наездзіў па краіне, што ледзь пакрылі яго камандзіровачныя выдаткі.

– Баюся, каб мы зноў дроў не наламалі. Можа, лепш правядзём скарачэнне кадраў, – прапанаваў першы намеснік дырэктара. – І сэканомім, і палепшым статыстыку...

– А каго мы скароцім? – спытаў Іван Іванавіч. – У адміністрацыі ўсе свае людзі: брат, сват ды нечыя жонка.

Дырэктар зірнуў на сваю другую палову і дадаў:

– А з рабочых у нас толькі адзін токар застаўся ды прыбіральшчыца, якая за ім габлюшку падмятае.

– Вось іх і скароцім, – прапанаваў першы намеснік. – Навошта яны выпускаюць незапатрабаваную прадукцыю? Інавацыя – значыць, інавацыя для ўсіх...

**Віталь ЖУРАЎСКІ,**
*г. Жодзіна.*




# Парнаскія жарты

## Віктар РЭЧЫЦ

### Вялікая крыўда

Грыгорый, Кім — абодва літаратары.
Някепскія, лічыў, у іх характары.
Пра чалавечнасць, пра сяброўства
помнячы,
Не адмаўлялі ва ўзаемнай помачы.
Нярэдка разам іх суседзі бачылі,
Калі яны на возеры рыбачылі,
Калі хадзілі ў госці дружна сем'ямі,
Калі вясной траву на дачах сеялі...
Ды нечакана ўсё перавярнулася,
Адзін ад аднаго ўраз адвярнуліся.
А здарылася гэткая гісторыя.
Раз папрасіў Кім «роднага» Грыгорыя:
— Хачу я вельмі: стань маім рэдактарам,
Рыхтую кніжку з назвай «Дэгустатары».
Дык праглядзі мой рукапіс уважліва
І прынцыповым будзь,
а не паблажлівым.
Друг твор вярнуў, ды Кім незадаволены.
— Каму так правіць тэкст у нас
дазволена?
Прызнацца мушу: ў непаразуменні я.
Чаму на «нешта» слова «штось»
заменена? —
У дружбака праз нейкі час пытаецца.
— Так больш па-беларуску, лепш
чытаецца.
— Не разумееш? Словы два — сінонімы,
Абодва скарыстоўваем сягоння мы.
— Рэдактар — я, таму мяне ты слухайся,
Каб у калюгу моўную не плюхнуўся.
— Я мову беларускую не ведаю?
Ці бачылі вы гэткую камедыю?
Вялікай засталася крыўда аўтара
На сябрука, што стаў літдэгустатарам.

### У лес па вершы

Збегла некуды натхненне,
Па яго я ў лес пайшла.
Каб не мучыла сумленне,
Для грыбоў кош узяла.

Шпацырую. Ціха, суха.
На далонь зляцеў лісток.
Натапырыла я вуха —
Ён мне прашаптаў радок!

Пачала пісаць я вершык.
Зірк убок — грыбочак першы:
Пад кустом сядзіць груздок.
Вось — яшчэ адзін радок!



У гушчар лясны зайшла —
Сыраежку там знайшла
І, пакуль яе зрэзала,
Рыфму ўдала падабрала.

Назбірала шмат грыбоў:
І апенькаў, і груздоў.
Ў кошыку было ім цесна —
Верш у ім таксама несла!

**Святлана БЫКАВА,**
*г. Заслаўе.*

### Парада «масцітага»

— І пад бярозкай беластволай,
І пад ракітавым кустом,
У паліто ці нават голым
Пішы алоўкам ці цвіком...

Пішы ў кватэры на канапе,
У гомане або ў цішы,
Рыфмуй на працы ці ў Анапе,
Сядай... ці стоячы пішы.

— А сам ты як?
— Складаю вершы
На дзень па семдзесят радкоў.
Глядзі, мо хутка зборнік першы
Праб'ю для зайздрасці вякоў...

...Чытач, чытач! Суддзя наш
верны.
Шкада пасрэдніцтва твайго.
Шкада, што кніжная папера
Зусім гатунку «не таго».

**Валерый КУХАРЧУК,**
*г. Іванава.*



## Прызнанне

Каб ты ведала, Геката,
Як жа я цябе люблю!
А калі ўцякаеш раптам
Ад мяне, я слёзы лью.

Твае вочы, быццам зоры,
Цёмнай ноччу свецяць мне.
Не паверыш — год каторы
Часта бачу іх у сне.

Як ільсніцца твая скура,
Які зграбны маеш нос!
Без цябе мне жыць панура,
Бяда-доля, сумны лёс.

Ты заўсёды распазнаеш
Мой нярадасны настрой.
Толькі глянеш — адганяеш
Цяжкіх думак тлумны рой.

Што тут скажаш? Гэта ўдача,
Бо з табой шчаслівы я
І ў багацці, і ў нястачы...
Псінка любая мая!

**Генрых ТАРАСЕВІЧ,**
*г. Мінск.*

## Вось дык шопінг!

Вырашыла моднай стаць
Сельская кабета.
Строі новыя прыдбаць
Да будучага лета.
«Мусяць зніжкі зараз быць, —
Гэтак разважала. —
Можна многа накупіць,
Заплаціўшы мала».
У раймагу ад тавару
Ломяцца паліцы.
Посуд, тэхніка, гітара...
Дзе ж знайсці спадніцу?
Каб прыгожы быў фасон
І сядзела ладна.
Каб фарсіць на ўвесь раён,
Самай быць прывабнай.
Ды на вешалках няма
Чым ёй пажывіцца.
Са спадніцамі — бяда...
Можа, нагавіцы?
Вось на вешалцы штаны.
Толькі, дайце веры,
Дзесяць пар — і ўсе яны
Аднаго памеру...

Трэба нашаму раймагу
Абнавіць асартымент,
Не ігнараваць заўвагу —
Шопінг праваліўся ўшчэнт!

**Настасся САМЧАНКА.**










Аляксандр ПЯТРОЎ х 3.

# Школьныя




– Дзеці, намалюйце квадрат са стараной дзесяць сантыметраў!

– Мар’я Іванаўна, што ж гэта за квадрат такі з адной стараной?

* * *

Настаўнік на ўроку:

– Дзеці, чаму мы спачатку бачым маланку, а потым чуем гром? Хто адкажа?

Вовачка цягне руку.

– Бо вочы знаходзяцца спераду галавы, а вушы па баках!

* * *

Дачка прыходзіць са школы і паказвае бацьку дзённік.

– Васьмёркі, дзявяткі, – бацька гартае старонкі. – Усё добра. Так, а гэта што такое?

– Заўвага... Настаўніца кажа, што я балбатуха і абяцае прыняць меры.

Бацька ставіць подпіс у дзённіку і робіць прыпіску: «Калі вашы меры дапамогуць, паведаміце. У мяне з жонкай тая ж праблема».

* * *

Бабуля з унучкай два тыдні гулялі ў школу. І толькі напрыканцы другога тыдня бабуля зразумела, што ўвесь час рабіла за ўнучку хатняе заданне.

* * *

Нішто так добра не запамінаюць вучні, як памылкі сваіх настаўнікаў.

* * *

3000 год. Урок рускай мовы.

– І запомніце, дзеці, галоўнае правіла пунктуацыі: пасля смайліка коска не ставіцца!

* * *

– Цішэй! – кажа настаўнік. – Каб было чуваць, як муха ляціць.

Усе адразу змоўклі. Вовачка не вытрымлівае:

– Пётр Сяргеевіч, дык калі ж вы муху выпусціце?

* * *

Сустракаюцца на тым свеце двое школьных настаўнікаў. Адзін кажа:

– Нарэшце можна адпачыць ад гэтых вар’ятаў. Тут так спакойна!

Другі:

– Сапраўды. І гэта нават не ўлічваючы, што мы трапілі не ў рай!

* * *

Настаўнік музыкі папярэджвае вучня:

– Калі ты не будзеш паводзіць сябе як след, я скажу тваім бацькам, што ў цябе ёсць талент!





* * *

На ўроку арыфметыкі настаўнік пытаецца ў вучня:

– Дваццаць чалавек за восем гадзін скасілі цэлае поле. За колькі гадзін пяцьдзясят чалавек скосяць тое ж самае поле? Падумай добра, перш чым адказаць.

– Калі дваццаць чалавек скасілі поле, то нават пяцьдзясят чалавек не змогуць скасіць яго ў другі раз, – растлумачыў вучань.

* * *

– Вовачка, якой падзеяй знамянальны 1799 год?

– Нарадзіўся Аляксандр Сяргеевіч Пушкін...

– А 1812?

– Пушкіну споўнілася 13 гадоў!

* * *

– Зноў у цябе кол па геаметрыі? А ну марш у кут!

– Мама, а што такое кут?

* * *

На ўроку фізікі.

– Дзеці, вы ж ведаеце, што ў холадзе ўсе рэчывы сціскаюцца, а ў цяпле, наадварот, павялічваюцца ў памеры?

Вовачка цягне руку:

– Вядома, Мар’я Іванаўна! Летнія канікулы даўжэйшыя за зімовыя.

* * *

– Пятроў, чаму ты так дрэнна вучыш англійскую мову?

– А навошта яна мне?

– Як гэта? Па-англійску размаўляе палова зямнога шара!

– І хіба гэтага мала?




* * *

Вучань пятага класа спецыяльна не ўзяў у школу дзённік і галаву, каб настаўніца не змагла пажартаваць.




* * *

Дырэктар школы папрасіў Вовачку пафарбаваць вокны на чацвёртым паверсе.

Праз пару гадзін Вовачка прыходзіць да дырэктара і пытаецца:

– А рамы таксама фарбаваць?

**Даслала Ганна СІНІЦА,**
*г. Барысаў.*

## Было і стала

У школе выдатнікі давалі двоечнікам спісваць, а цяпер ў падзяку за гэта двоечнікі даюць выдатнікам грошы ў пазыку пад працэнты...

## Будучыня

Настаўніца ў першым класе:

– Дзеці, адклалі ў бок ўсе свае смартфоны-тэлефоны, хопіць перапісвацца! Сёння нам трэба вывучыць літару «А».

## Дасціпны адказ

Настаўніца матэматыкі ў малодшых класах:

– Хто скажа, як можна падзяліць чатыры бульбіны на пяць чалавек?

– Элементарна! Зрабіць пюрэ... – знайшоўся Вовачка.

## Толькі Бог дапаможа

Вучань моліцца пасля кантрольнай па геаграфіі:

– Божа, зрабі так, каб Парыж стаў сталіцай Канады!

## Калі не шанцуе з усіх бакоў

На ўроку:

– Аляксеева, да дошкі!

– Чаму я?

– Добра, тады па спісе. Аляксеева, да дошкі!




## Матэматычная гісторыя

Настаўнік заходзіць у клас:

– Дзеці, сёння будзем пісаць кантрольную!

– А калькулятарам карыстацца можна?

– Канешне.

– І транспарцірам?

– Таксама. А цяпер запішыце тэму: «Гісторыя Беларусі ў першай палове XX стагоддзя».




## Жыццёвае

Бясплатная адукацыя становіцца ўсё даражэй...



## Сучаснае тлумачэнне

У школу запрасілі тэолага правесці ўрок і распавесці дзецям пра хрысціянства. Ён пачаў з пытання:

– Як усе малітвы сканчаюцца? Правільна, словам «Амін». А што гэта значыць?

Тут жа чуецца адказ аднаго з вучняў:

– Напэўна, гэта штосьці накшталт «адправіць паведамленне»?

**Аляксандар ЗОТАЎ,**
*г. Мінск.*

У кафэ некалькі былых студэнтаў-аднакурснікаў узгадвалі юнацтва.

— Гэта цяпер мы можам дазволіць сабе любую страву, а памятаеце, як у інтэрнаце часцяком у нашых жыватах іграў марш? — падхапіўшы відэльцам катлету, падміргнуў таварышам Сашка.

— А колькі было спалена патэльняў ды каструль? — падтрымаў размову Мікіта.

— Чаго толькі варты прыгатаваныя ў чайніку пельмені, — засмяяўся Максім.

— Але найбольш трывала ў маёй памяці застаўся першы прыгатаваны суп, — з настальгіяй прамовіў Сашка.

— Ніяк не ўцямлю, які...— сказаў Воўка.

— Ты ж на кватэры тады жыў, — узгадаў Мікіта.

— І сапраўды! — пагадзіўся той. — А што ў ім было цікавага?

— Хто ў інтэрнаце не жыў, таму не зразумець, — агучыў вядомую прымаўку Мікіта. — Ну, слухай, як было.

— Каб суп атрымаўся сытнейшым, да бульбы дадалі грэчку, — узгадаў Сашка. — Ну і, канечне, іншае па рэцэпце. Пасля чарговай праверкі варыва ў пакой забег Мікіта.

— Пэўна, з крупой перабаршчылі. Яна ўжо займае палову каструлі! — успомніў свае словы Мікіта.

— А я кажу: «Нічога, быў суп бульбяны, стане крупяны. Ды і фасоля не спатрэбіцца. Усе роўна яе ў нас як кот наплакаў». Ды тут сваё важкае слова выказаў Максім: «Як хочаце, але ад рэцэпта адыходзіць не варта». Так у бульбу з грэчкай дадалі жменю фасолі, — сказаў Сашка.

— А вось цыбулі ў нас не аказалася, — узгадаў Максім.

— Таму пайшлі па суседзях. Толькі ў чацвёртым або пятым пакоі пашанцавала, і мы дасталі жаданую гародніну, — уздыхнуў Сашка.

— Дадалі ў суп цыбулю, часнок, кубікі булёну, — працягнуў Мікіта. — Памешваем, бачым, вады зусім мала.

**Андрэй СІДАРЭЙКА**



# Суп па рэцэпце



*Гумарэска*

Наш корпус складаўся з дзвюх частак. У першай была кухня дзяўчат, у другой — юнакоў. Да канца першага месяца кулінарная фантазія нашага пакоя вычарпалася. На студэнцкім стале неаднаразова пабывала бульба вараная, смажаная, у мундзірах. Таксама пельмені, крупы і, вядома ж, яечня. А душу не падманеш! Яна патрабавала першых страў.

— Метавіта тады я прапанаваў прыгатаваць суп, — уставіў свае дзве капейкі Максім.

— Навык у такой далікатнай справе адсутнічаў. Але ў Мікіты мелася кніга кулінарных рэцэптаў, якую ў дарожную сумку паклала маці, — працягваў расказваць Сашка.

— Выбралі «Суп бульбяны», — падхапіў эстафету ўспамінаў Мікіта. — Акрамя «другога» хлеба, патрабавалася яшчэ цыбуліна, зубчык часнаку, лаўровы ліст, кубікі булёну, кансерваваная фасоля, курыная вяндліна. На смак — прыправы і соль.

— Я тады абурацца пачаў, маўляў, суп бульбяны, а на інгрэдыенты стыпендыі не хопіць! — сказаў Максім.

— Таму мяса вырашылі выкрасліць, — прадоўжыў аповед Сашка. — Усяго ж астатняга — пакласці больш: не на аднаго гатавалі.

— Калі галоўны інгрэдыент аказаўся ў каструлі з вадой, панеслі ставіць на пліту, — працягнуў Мікіта. — Кухня хлопцаў была занята. А вось у дзяўчат амаль нікога не было. Таму пачалі гатаваць там.

Ускіпяцілі яе ў чайніку, паволі падліваем. Надышла чарга спецый.

— Тут узнікла праблема са смакам, — падміргнуў Воўку Сашка. — Кожны хацеў дадаць нешта сваё. А дзве і больш гаспадыні на адной кухні, вядома, — бяда.

— Пачалі з солі, — прыгадаў Максім. — Крышку сыпнулі, быццам не хапае. Дадалі яшчэ. Настала чарга перцу. Зноў кожны паспрабаваў і насыпаў сваю дозу, у выніку ў супе апынулася каля паловы пачка прыправы.

— Вырашылі чакаць, пакуль згатуецца доўгачаканая вячэра, у пакоі, — усміхнуўся Мікіта. — І вось усе разам пайшлі на кухню. Выключаем пліту, заглядваем у пасудзіну, а там... усяго трэць супу засталася. Думаем, хто? Няўжо дзяўчаты?

— І што далей? — зацікавіўся такім ходам аповеду Воўка.

— А нічога! — чуць не ўскрыкнуў Сашка. — Думаем, добра, што хоць столькі пакінулі!

— Прынеслі варыва да сябе, дасталі лыжкі, сабраліся кружком каля стала. Першым лыжку зачарпнуў Сашка, — Максім зірнуў на сябрука. — Падзьмухаў старанна — і ў рот. А мы аж замерлі. Глядзім на яго з асцярогай і адначасова надзеяй. Ён праглынуў і ... на яго вачах з'явіліся слёзы! Можа, толькі праз паўхвіліны да дэгустатара вярнуўся дар мовы...

— Дрэнь, сябры, і не пытайце! — засмяяўся з успамінаў Сашка.

— Не паверылі мы, — падняў угору палец Максім. — Свае лыжкі ў варыва запусцілі! А на смак яно — нібы салёнае, нібы пякучае. Не зразумела, што гэта: ці суп, ці каша.

— «Па рэцэпце, па рэцэпце», — утаропіліся мы пагрозліва на Максіма, — засмяяўся Сашка. — І на Мікіту зірнулі дакорліва. Кажам: «Выкінь ты, браце, сваю кніжку на сметнік».

— Не ведаем, што было б далей, — загадкава ўсміхнуўся Мікіта. — Але тут пачулі праз фортку размову нашых суседзяў: «Як гэта можна есці? Ні кавалка мяса! Вось і бяры такіх замуж!» А следам за абурэннем раздаўся грукат місак. Тут мы і пырснулі ад смеху.

— Засталіся галоднымі? — спытаў Воўка.

— Не, — адказаў Сашка. — Дасталі апошні кавалак сала. Елі і з усмешкай паглядалі на каструлю з першым звараным супам.

— Пасля па рэцэптах мы не гатавалі, а соль і прыправы дадаваў толькі адзін чалавек, — скончыў аповед Мікіта.

— А ўсе ж такі студэнцкая пара — самы цікавы і пазнавальны перыяд жыцця! Заўсёды ёсць што ўзгадаць, — уздыхнуў Максім.

Яшчэ доўга цешылі сябе сябры рознымі вясёлымі гісторыямі. Толькі позна вечарам з добрым настроем пакрочылі дадому. Але яны дамовіліся, што калі-небудзь збяруцца разам і ўсё ж такі паспрабуюць згатаваць той самы бульбяны суп. Толькі на гэты раз без эксперыментаў з інгрэдыентамі.

*Рэчыцкі раён,*
*агр. Каравацічы.*






**Іван КУРБЕКА**

## Студэнцкі выклічнік

Помню, лез я ў БДУ —
Толькі думаў: буду — у-у-у!..

Здаў экзамены, як мог, —
Уздыхнуў з палёгкай: ох...

У навуку так рвануў,
Што сказалі мне: «Ну-ну!..»

Час ішоў, ляцелі дні —
У навуцы я ні-ні.

Год прайшоў, за ім другі —
Я ўсё ведаю — гі-гі.

Як схітрыць, як падмануць:
Дзе круць-верць, а дзе верць-
круць.

Аддрыжэў, адтросся я —
Тра-ля-ля, тра-ля-ля-ля!

У кішэні ёсць дыплом,
Хоць ва ўсім я ні бом-бом.

Сёе-тое ўсё ж магу —
Збоку думаюць: «Угу!..

Гэта ў вас нагрудны знак?»
«Ну, вы ж бачыце — так, так».

«Гэта што — ўніверсітэт?!»
У адказ кідаю: «Э-эт...»

## Лектар-эрудыт

Улучыўшы момант зручны,
Пахваляўся лектар вучням:
— Не паверыць, можа, хто мне
(Гэта ж так было даўно!),
«Мцыры» Пушкіна я помню
І яго «Барадзіно».
Паважаю Льва Талстога
(У жыцці ён лепшы друг),
Яго твораў маю многа:
«Нос», «Каштанку», «Бежын
луг».
Я і сёння, як бывала,
Прыгадаю без заган
«Святы Ян», «Дрыгву» Купалы
Або Коласа «Курган».
Я вам, вучні дарагія,
Толькі збольшага сказаў —
Трэба ведаць, хто якія
Калі творы напісаў!

## Сінтаксіс у каханні

Калі хлопец на дзяўчыну
Ўсё глядзіць з замілаваннем,
Знаць, на тое ёсць прычыны —
Узнікае ПРЫМЫКАННЕ.

Пачуцця хапае сілы
Кожны вечар на спатканні:
— Родны мой...
— Як ты мне міла!.. —
Гэта ўжо ДАПАСАВАННЕ.

Так жыве між імі згода,
Іх вясны мінае ранне —
Без яе ён ані ходу —
Пачалося КІРАВАННЕ.

*«Абы здароўе», Мн., 1979 г.*






## Сяброў па адзежы не выбіраюць

*Казка*

Жылі некалі па суседстве Васілёк і Рамоначак. Ніколі не сварыліся, адзін аднаго не крыўдзілі. Хаваліся разам ад ветру і дажджу. І такія абодва прыгожанькія былі! Адзін у бялюткім адзенні. Другі ў блакітным. Аднойчы завітаў да іх Дзьмухавец. Таксама вельмі сімпатычны. Прыляцеў на парашуціку, пераапрануўся ў жоўты камбінезончык і пасяліўся побач.

А праз некаторы час расквецілася ўсё наваколле васільковымі, жоўтымі і белымі кветачкамі. І ўсё было б добра, калі б не Крапіва. Адкуль яна ўзялася, ніхто не ведаў.

— І чаго гэта ты каля нас пасялілася? — абураліся Рамонак з Васільком. — Што ты тут згубіла? Мы людзям карысць прыносім, а ад цябе адны непрыемнасці. Пустазелле, і толькі.

— Якая абраза! — ні на жарт разышлася Крапіва. — Ды я, калі хочаце ведаць, больш карысная, чым вы.

— Ой, трымайце мяне, — затросся ад смеху Дзьмухавец. — Для здароўя яе выкарыстоўваюць. Каму-небудзь іншаму раскажы гэтую байку, толькі не нам. Калі б была патрэбная, дык не вырывалі б цябе і не выкідалі.

— Можна падумаць, што цябе дужа шануюць, — абурылася Крапіва. — І касой зразаюць, і рукамі выдзіраюць. А ты зноў з'яўляешся.

— Ат, проста не разумеюць людзі, што я лекавая расліна, — пакрыўджана заміргаў вочкамі Дзьмухавец. — І сілы магу аднавіць, і ад шлакаў пазбавіць. Я ж нават на выпрацоўку інсуліну ўплываю.

— А не маніш? — не паверыла Крапіва.

— Не, гэта праўда. Мяне выкарыстоўваюць пры атручванні, запаленні лімфатычных вузлоў, нават пры ракавых захворваннях.

— Вось як! — здзівілася Пякучка. — Ніколі б не падумала. Але ж і я патрэбна людзям. З мяне робяць кровaспынальныя лекавыя прэпараты. Выкарыстоўваюць пры парушэнні сну, рэўматычных болях, страце апетыту, для ўмацавання каранёў валасоў.

— А мае лекавыя ўласцівасці ацанілі яшчэ ў старажытным Рыме, — падняў галоўку Рамоначак. — Маімі адварамі лячылі ўкусы змей, раны воінаў, захворванні вачэй, апёкі.

— А з маёй дапамогай здаўна лечаць ад сардэчных ацёкаў, прастудных захворванняў, — уставіў слоўца Васілёк. — Дапамагаю пры ранах, пераломах. І нават барадаўкі звесці магу.

— Ды ўсе вы карысныя, не спрачайцеся, — падвяла вынікі Божая Кароўка. А то ні з таго, ні з сяго наляцелі на Крапіву. Па адзежы толькі сустракаюць, а праводзяць усё ж па розуме і па ўнутраным змесце.

З той пары ўсе расліны зажылі як добрыя сябры. Толькі час ад часу спрачаліся, у каго ўсё ж такі больш лекавых здольнасцей.

**Лёля БАГДАНОВІЧ,**
*г. Барысаў.*

### Вожыкава радасць

З-за шафы выйшаў вожык
Па хаце пагуляць.
Гасцюючы ў Сярожы,
Не будзе сумаваць.

Пратупаў па падлозе
Ён да кутка таго,
Дзе важна ўсеўся хтосьці
Падобны да яго.

У шэранькім гаршчочку,
Калючы ўвесь такі.
Дзе лапкі і дзе вочкі?
Мы, пэўна, сваякі?

Ці рады ты мне, браце?
Я сябра твой і госць.
Някепска, як на свеце
Хто-небудзь блізкі ёсць.

### Кот-памагаты

— Што з табою, Васілёк?
Быў бліскуча-шэры.
Чорны стаў, як вугалёк, —
Стась вачам не верыць. —

Хто ж цябе пафарбаваў?
Што за жарты, коця?
Мо, ты ў казку завітаў
Да Кашчэя ў госці?

Каля печы вунь сляды,
Ля дзвярэй — таксама.
Мабыць, комін чысціў ты...
Вось пахваліць мама!

**Галіна НУПРЭЙЧЫК,**
*г. Клецк.*

# Байкі пра вялікіх

## Сціпласць упрыгожвае

Калі Рахманінаў прыбыў у Амерыку, адзін музычны крытык здзіўлена спытаў:

– Чаму маэстра так сціпла апранаецца?

– Мяне ўсё роўна тут ніхто не ведае, – адказаў кампазітар.

З цягам часу Рахманінаў не змяніў сваіх звычак. І той жа крытык праз некалькі гадоў зноў заўважыў:

– Маэстра, ваша матэрыяльнае становішча змянілася, але лепш апранацца вы не сталі.

– Навошта мне гэта, мяне і так усе ведаюць, – пацiснуў плячыма музыкант.

## Як перамагчы сумненне?

Адзін з прыхільнікаў Уладзіміра Маякоўскага хацеў выказаць сваё захапленне яго творчасцю. Пры сустрэчы з паэтам ён дастаў кніжку вершаў і загаварыў пра яе з аўтарам. Маякоўскі паслухаў яго некалькі хвілін і сказаў:

– Прабачце, няма калі вас слухаць, бо мяне чакаюць. А калі хочацца пахваліць маю кнігу, то падыдзіце, калі ласка, да століка, дзе сядзіць дзядок у белым гальштуку. І раскажыце яму ўсё, што вы хацелі распавесці мне.

– А якое дачыненне ён мае да вас?

– Я заляцаюся да яго дачкі. Яна ўжо ведае, што я вялікі паэт, а дзядок усё яшчэ сумняваецца.

## Іскра чалавечай дабрыні

Марк Твэн дужа не любіў банкіраў і заўсёды іх высмейваў. «Гэта людзі, – казаў ён, – якія дадуць вам парасон, калі ззяе сонца, але неадкладна запатрабуюць яго назад, як толькі пойдзе дождж».

Пісьменнік распавядаў пра аднаго банкіра, у якога было шкляное вока, зробленае знакамітым парыжскім ювелірам.

Аднойчы ён прапанаваў Твэну:

– Я дам вам пяць тысяч долараў, якія вы ў мяне прасілі, калі адгадаеце, якое з маіх вачэй шкляное.

– Вядома, левае, – сказаў Твэн.

– Як вы адгадалі? – здзівіўся банкір.

– Толькі ў ім захавалася іскра чалавечай дабрыні, – не разгубіўся пісьменнік.




Анастасія СКАРКО.

## Каму кветкі, а каму…

З пачатку 1900-х гадоў творы кампазітара і піяніста Сяргея Іванавіча Танеева сталі карыстацца вялікім поспехам. Часта пасля выступленняў яму падносілі кветкі, а часам і лаўровыя вянкі. З апошніх практычная няня, Пелагея Васільеўна, старалася атрымаць карысць – сушыла ліст і шчодра адорвала ўсіх сваіх знаёмых. Калі запасы падыходзілі да канца, яна казала Сяргею Іванавічу: «Вы б у канцэрце пайгралі, а то лаўрушка заканчваецца»…

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**

**Малюе Пётр КОЗІЧ.**














# ЧМЕЛЬ І ШЭРШАНЬ

*Фельетон-казка*

Аднойчы Чмель гуляў шаферам на вяселлі Мухі-Цакатухі і сустрэў там Пчолку Таньку. Закахаўся ў яе з першага погляду. Такая прыгажунька: невысокага росту, ладна складзеная, з мілым тварыкам.

Таксама на вяселлі быў і Шэршань. Ён меў доўгае вострае джала, даволі дзябёлае цела, а твар — жоўты, злы. Здавалася, што яго ўладальнік гатовы з кожным пры сустрэчы падзяліцца сваім ядам. У параўнанні з Чмялём, жвавым, сімпатычным, да таго ж сапраўдным працаголікам, Шэршань выглядаў насякомым-інтэлігентам.

Атрымалася так, што на тым жа вяселлі сустрэліся Шэршань і родная сястра Пчолкі Танькі Таська. Той задурыў ёй галаву прыгожымі словамі, і неўзабаве пара ажанілася.

Пачалося сямейнае жыццё. Нарадзіліся дзеткі. Іх трэба было карміць, апранаць. Але Шэршань не хацеў змяняцца. Ён заўсёды быў злосны, усмешкі ніхто ніколі не бачыў на яго вуснах, кусаўся, не ўжываўся з іншымі інтэлігентамі, часта змяняў месца працы.

А што ж Чмель? Працавіты, рукасты, пасля жаніцьбы з Пчолкай Танькай ён збудаваў сабе новае гняздо, таксама гадаваў дзетак. Чмель пасябраваў з усімі родзічамі жонкі, даглядаў, песціў іх. Нават з жукамі, мушкамі ды камарамі знайшоў паразуменне.

Звычайная справа, усё як у людзей: ажаніліся і жывуць паасобку. Але справа ў тым, што на ўскрайку лесу стаяў стары вулей, які належаў бацькам Танькі і Таські. Перад смерцю іх маці завяшчала яго напалам дзвюм сваім дочкам.

Сталі жыць пчолкі-сястрычкі па-суседску: дапамагалі адна адной насіць мёд у вулей, а вечарамі размаўлялі пад гарбату.

Знянацку здарылася бяда: загінула Пчолка Таська. Не паспелі адгараваць родныя і сябры, як Шэршань хутка перапісаў на сябе палову вулея. І стаў паўнапраўным гаспадаром на сваёй частцы. Але гэтага яму было мала, хацелася больш тэрыторыі захапіць. Таму пачаў мераць вулей сантыметрамі. Бессаромна. Нахабна. А тое, што ён не забіў там нават і цвіка, Шэршня не надта хвалявала. І што Пчолка Танька тут нарадзілася і вырасла, таксама не кранала яго чэрствае сэрца.

«Прыйшоў на ўсё гатовае, на спадчыну цесця і цешчы! Герой знайшоўся... — абураўся Чмель. — А ты паспрабуй, як я, з нуля пабудаваць сваё гняздо. Вось тады і станеш сапраўдным гаспадаром!»

Шэршань, як апантаны, пачаў турбаваць судовымі заявамі ўсё кіраўніцтва пчол і чмялёў, паказваць атрутнае джала, брыдкімі словамі зняважаць Таньку. Праз суд ён




дабіўся, каб тая выплаціла яму за нейкія лішнія сантыметры каля 1000 пчаліных рублёў (заўважце, сантыметры плошчы, пакінутыя бацькам і маці руплівіцы).

А як на ўсё гэта рэагаваў Чмель? Ён займаўся рамонтам сваёй паловы: абабіў сценкі, замяніў вашчыны, наддашак, пафарбаваў яго. У гэты час Шэршань выхваляўся сваім розумам і спрытнасцю. Ён нават спрабаваў яшчэ некалькі разоў судзіцца з Танькай, але нічога ў скнары не атрымалася. Суседзі глядзелі на ўсё гэта і асуджальнаківалі галовамі: «У каго цераз край, таму больш падавай!»

Прайшоў час. Нашы героі пастарэлі, змяніўся і вулей. З аднаго боку была прыбраная, акуратная тэрыторыя, свежая фарба на сценах, смех унукаў і нават праўнукаў. З другога ж — усё зарасло пустазеллем, вакол разруха, адзінота і запусценне.

Вось тут і ўспамінаецца казка пра залатую антылопу і прагнага да грошай Раджу. Відаць, не пайшло на карысць Шэршню несумленным шляхам набытае багацце. Шкада толькі, што людзі не вучацца мудрасці ў народа і, аслепленыя сквапнасцю, забываюць, што шчасце сапраўды не ў грашах...

**Алесь РАКІТА,**
*г. Мінск.*




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.




Пётр КОЗІЧ.




## Хачу дадому!

Міхась раніцай хадзіў на працу праз могілкі, бо так атрымоўвалася значна хутчэй.

...І вось зіма, вузкая сцяжынка. Выцягнуў ён руку з кішэні, а за рукавіцу, як на тое ліха, зачапіліся ключы і вылецелі ў гурбу ажно на магілу.

З пяць хвілін моўчкі ўзіраўся Міхась у снег. Менш за ўсё ў жыцці хацелася ў ім корпацца. Але ў галаве засела думка: дадому без ключоў не трапіць, таму, што рабіць? Трэба лезці! І тут ідзе мужык. Міхась жа сядзіць каля магілы, разграбае снег і жаласліва так апраўдваецца:

– Дадому не магу трапіць...

Тут ён падумаў, як гэта выглядае збоку, і пачаў рагатаць. Ды так моцна, што той мужык дакладна больш не захоча ісці кароткім шляхам праз могілкі...

## На што падобныя?

Бацька з сынам гуляюць на вуліцы.

– Тата, на што падобныя вунь тыя аблокі?

Той задумаўся, прыгледзеўся. Пачаў ужо фантазіраваць, усялякіх мішак ды жырафаў шукаць на небе.

Сын жа праз хвіліну сам адказаў на сваё пытанне:

– На тоўчаную бульбу. Яны ўсе падобныя на тоўчаную бульбу!

## У цырульні

Да адміністратара падыходзіць малады хлопец. Худы, прышчаваты. Шыя, як у быка хвост.

– Падкажыце, калі ласка, колькі каштуе стрыжка?

– 40 рублёў.

– А чаму так дорага? У цырульні праз прыпынак ад вас яна каштуе 15!

– Яно і бачна! У цябе з такой прычоскай дзяўчына ёсць?

Хлопец маўчыць.

– Вось бачыш! А як мы падстрыжом, адразу з’явіцца!

– На шэсць гадзін запішыце, калі ласка...

## Банкаўская

Звяртаецца кліент у службу падтрымкі банка і адразу пачынае гарлапаніць:

– Як зрабіць так, каб я да вас пастаянна не звяртаўся для аднаўлення логіна і пароля?

– Хм... Запомніць дадзеныя? – крыху падумаўшы, прапанаваў яму спецыяліст.

– Дзякуй! – шчыра адказаў мужчына і скінуў званок.

## Геніяльнае апраўданне

Жонка дапякала мужа, што з-за яго рэчаў у кватэры вэрхал. У чарговы раз ён выдаў:

– Гэта я так пазначаю сваю тэрыторыю! Як мае продкі.

Шкада талькі, што жонка не ацаніла такое геніяльнае апраўданне і прымусіла мыць посуд.

## За здаровую ежу!

– Ліда, а чаму ў халадзільніку столькі гародніны?

– Я тут падумала, што нам трэба есці больш здаровай ежы. І вітаміны, і для фігуры карысна. Згатую заўтра рагу.

– А навошта тут дзве палкі каўбасы?

– Гэта так, на бутэрброды. Бо як ты інакш збіраешся наесціся рагу?

## Моль

У кватэры завялася моль. Алесь і Света перагрэслі ўсе шафы, паліцы антрэсолі і нават кухню. Нічога не знайшлі. Жонка з'ехала па справах на пару тыдняў. Да яе вяртання муж прыняўся наводзіць парадак. Для пачатку вырашыў пачысціць пыласос. І ўнутры яго выявіў інкубатар молі.

Алесь сустрэў Свету і радасна распавёў, што больш шкадлівых насякомых не будзе, але жонка ніколі ў жыцці не здагадаецца, дзе яны завяліся. Тая доўга пералічвала месцы, але правільнага адказу не было. Калі яна здалася, Алесь праз смех прамовіў:

– У пыласосе, толькі ўяві сабе!

Але праз некалькі секунд зразумеў, што рагоча адзін. Паглядзеў на Свету, а ў яе па шчацэ бяжыць сляза.

– Чаго ты? – здзівіўся муж.

– Гэта ўсё таму, што ў мяне футра няма! Вось моль з галадухі і пачала пыл жэрці, – усхліпваючы, патлумачыла жонка.




Пётр КОЗІЧ.

## І што тут адкажаш?

Размова маці і сына.

– Мам, ёсць такое выслоўе, маўляў, хамякі прыдуманы для таго, каб паказваць дзецям смерць.

– Ёсць такое. А сабакі – каб паказаць любоў, а каты – ганарлівасць.

– Мам, а для чаго прыдуманы рыбкі? Каб паказаць дзецям, як маўчаць?

## Клінінг на аўтсорсе

Падслуханая размова на базары:

– Так, мама, усё добра. Працую. Сёння вось клінінг на аўтсорс перадаў. Ды клінінг на аўтсорс, што незразумелага?! Ох, мама, мясцовай прыбіральшчыцы буду 50 рублёў у месяц плаціць, каб яна і мой кіёск мыла.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**







Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Міхась СТЭФАНЕНКА.




Анастасія СКАРКО



Аляксандр ШМІДТ.



Алег ГУЦОЛ.




Алег КАРПОВІЧ.




Сяброўскі шарж Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

# Ласкавы і вясёлы госць

*Працоўная біяграфія пісьменніка Леаніда Кірэевіча ЛЕВАНОВІЧА багатая на пасады. Выпускнік журфака БДУ працаваў у газетах «Знамя юности» і «Сельской газете», штотыднёвіку «ЛіМ», у часопісе «Нёман», загадваў аддзелам навукі часопіса «Полымя», быў галоўным рэдактарам літаратурна-драматычных перадач Беларускага тэлебачання... Жыццёвы і прафесійны вопыт, памножаны на прыроджаную назіральнасць ды дасціпнасць, дазволілі літаратару стаць аўтарам не толькі «сур'ёзных», але і гумарыстычных празаічных твораў. Леанід Кірэевіч — заўжды жаданы госць у нашай рэдакцыі, бо ўсмешка і добры настрой нязменна спадарожнічаюць творцы. Мы шчыра віншуем нашага сябра і аўтара з 80-годдзем, зычым здароўя, бадзёрасці, натхнення і аптымізму!*

**Леанід ЛЕВАНОВІЧ**

## Дыялогі

### Як ляціць час!

Сустрэліся два даўніх сябра.

— Прывітанне, мой даражэнькі! Як жыццё-быццё?

— Добра. Але магло быць і лепш.

— Цудоўна цябе разумею. Як сям'я? Дзе сынок твой? Дзімка, здаецца?

— Так, Дзмітрый. У школу ходзіць.

— Ого, а ў які клас?

— У восьмым, дзявятым гісторыю выкладае...

### Кожнаму — сваё

Неяк у маім садзе на Вілейшчыне дужа зарадзілі яблыкі. Буйныя, крамяныя, чырванабокія. Пачаставаў імі сябра паэта. Той пяшчотна пагладзіў адзін яблык, другі, задуменна ўсміхнуўся:

— Ведаеш, браце, твае яблыкі нагадалі мне грудзі каханай жанчыны.

А потым я частаваў яблыкамі земляка, сяржанта міліцыі. Той ускінуў яблык на далоні, нібы ўзважыў яго:

— Вось гэта фрукт! Гэткім цешчу забіць можна...

Насамрэч, кожнаму — сваё...

### Лепш, чым будзе

Выпадкова сустрэў даўняга знаёмага дацэнта. Высокі, мажны, усмешлівы. Падалося, што ён зусім не пастарэў.

— Ну, як жывеш? Як здароўе?

— Жыву няблага. Усё, што трэба, маю. А чаго не маю, дык тое мне і не трэба, — зарагатаў дацэнт. — А наконт здароўя... Як табе сказаць? Горш, чым было, але лепш, чым будзе, — весела прамовіў сябра.

### Жыву на тры «Д»

Пенсіянер тэлефануе сябру:

— Як пажываеш?

— На тры «Д»!

— Гэта як? Дай дурню дарогу?

— Ды не! Так я казаў, калі ездзіў на сваёй машыне.

— А што, цяпер не ездзіш?

— Не, братка. Галава кружыцца. Аддаў машыну зяцю. А тры «Д» зараз іншыя: даядаю, даношваю, дажываю...



Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

«Вожык» – грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 9 (1560), 2018 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*
16+
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

Намеснік галоўнага рэдактара
Аляксандр Пятровіч КАРШАКЕВІЧ.



Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел),* Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў),* Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.
Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: a-vojik@yandex.by;
Тэлефоны: галоўнага рэдактара – 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага – 284-84-52, бухгалтэрыі – 287-18-81, факс – 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 – індывідуальны, 01380 – індывідуальны льготны,
748442 – ведамасны, 01381 – ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 05.09.2018. Фармат 60x84 $^{1}/_{8}$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,18. Тыраж 672 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61,
220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.





Алег КАРПОВІЧ.





Аляксандр КАРШАКЕВІЧ x 2.





Алег КАРПОВІЧ.







Пётр КОЗІЧ.



Алег ГУЦОЛ.



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ.

# Вожыкаўскі плакат

Аляксандр ШМІДТ.

**На радасць і сабе, і блізкім**
**Аформіць не забудзь падпіску!**

## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ – 74844,**
**індывідуальны льготны**
(для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) – **01380**;

**ВЕДАМАСНЫ – 748442,**
**ведамасны льготны**
(для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) – **01381**.

**«Вожык» прыйдзе кожнаму жыхару Беларусі!**



**ПАДПІСКА НА II ПАЎГОДДЗЕ 2018 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
індэкс 74844, цана 4,70 рублёў,
індэкс 01380, цана 3,74 рублёў,
індэкс 748442, цана 13,16 рублёў,
індэкс 01381, цана 10,50 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**

